РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №6 жнівень 2015 году



# Спакушэнне апазіцыі

**Як улады ні намагаюцца ствараць уражанне вольніцы на гэтых выбарах, а ўсё адно выходзіць, як у барадатым савецкім анекдоце — аўтамат Калашнікава.**

Бягучы палітычны момант не тоіць пагрозаў чарговаму пераабранню Лукашэнкі. Але адточаная сістэма парушэнняў і фальсіфікацый працуе па інерцыі, заўважае першы намеснік Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.




Вось свежы прыклад выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу.

На сайце Цэнтрвыбаркаму з'явілася інфармацыя аб адкрыцці адмысловых выбарчых рахункаў асобаў, што вылучаюцца кандыдатамі ў прэзідэнты. Гэтыя сродкі могуць выкарыстоўвацца на аплату выдаткаў, звязаных са зборам подпісаў выбарцаў, у тым ліку на аплату працы сябраў ініцыятыўнай групы, транспартных выдаткаў, канцылярскіх тавараў і так далей.

Аляксандра Лукашэнкі ў спісе тых, хто завёў такі рахунак, няма. Хаця многія бачылі яго шматлікія, добра экіпіраваныя пікеты па збору подпісаў. Яго ініцыятыўная група пахваляецца мільёнам сабраных подпісаў.

Дзеючы кіраўнік дзяржавы зноўку сам вырашае ў якіх умовах будуць адбывацца выбары.

«Я кажу: »Не чапайце — хай збіраюць подпісы, дзе хочуць. Але калі вы ўпэўненыя ў тым, што мы можам перамагчы, ну навошта ствараць праблемы? Нават калі яны дзесці парушылі правілы. Такую я даю ўстаноўку. Усе на роўных умовах», — сказаў ён нядаўна ў інтэрв'ю шэрагу незалежных СМІ.

Таксама ён згадаў выбары-1994, першыя і апошнія прызнаныя дэмакратычным светам: «Памятаю, з якой цяжкасцю я збіраў подпісы ў першую прэзідэнцкую кампанію. Я бегаў па камісіях, каб даказаць, што гэтыя подпісы рэальныя.

**працяг на стар. 8**

# Без права на скаргу

**Шэраг жыхароў Брэста паскардзіліся ў Вярхоўны суд на рашэнне Брэсцкага абласнога суду, які адмовіўся распачынаць справу наконт таго, якім чынам Брэсцкі абласны савет дэпутатаў і Брэсцкі аблвыканкам сфармавалі абласную тэрытарыяльную камісію па выбарах прэзідэнта. Вынік аказаўся прадказальным для нашай судовой сістэмы.**

10 грамадзян вылучылі ў склад выбаркаму сябра Руху «За Свабоду» Сяргея Вакуленку, але яго туды не ўключылі. Як лічаць аўтары звароту ў Вярхоўны суд «праз палітычныя перакананні».

9 з 10 грамадзян, што вылучылі Вакуленку, звярнуліся са скаргай на рашэнне аб фармаванні абласной выбарчай камісіі, у Брэсцкі абласны суд. Але ён адмовіўся заводзіць справу, матывуючы гэта тым, што скарга не падпісана ўсімі грамадзянамі, што вылучалі Вакуленку.

**працяг на стар. 4**

# Адмінрэсурс у дзеянні

**Кампанія назірання «Права выбару-2015» прадставіла на прэс-канферэнцыі ў офісе Руху «За Свабоду» у Мінску першую прамежкавую справаздачу датычна таго, як праходзіць прэзідэнцкая выбарчая кампанія.**

Яна ахоплівае перыяд першага месяца кампаніі з 1 да 31 ліпеня. Да дня выбараў, 11 кастрычніка, «Права выбару-2015» зробіць яшчэ пяць справаздачаў па выніках доўгатэрміновага назірання.




## Назіральнікі адзначылі:

1. Ужо на пачатковым этапе ў выбарчай кампаніі адсутнічае роўнасць умоваў для апазіцыі ў параўнанні з лаяльнымі ўладам суб'ектамі, на ход выбараў уплываюць абмежаванні свабоды слова, свабоды сходаў і асацыяцыяў, апазіцыя не допушчана да працы выбарчых камісій і пазбаўленая магчымасці ўплываць на падрыхтоўку выбараў. Гэта падрывае давер да працэдуры выбараў з боку грамадства і служыць падставай для недаверу будучым вынікам выбараў.

2. Грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне не спрыяе правядзенню свабодных і справядлівых выбараў. Наяўнасць шасці палітычных вязняў (М. Дзядка, І. Аліневіча, Я. Васьковіча, А. Паракапенкі, Ю. Рубцова і асабліва зняволенага экс-кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года М. Статкевіча) стварае атмасферу запалохвання грамадства і апазіцыі напярэдадні выбараў.

3. Унесеныя ў 2013 годзе ў Выбарчы кодэкс змены не прадухілілі няроўнага доступу палітычных сілаў да ўдзелу ў працы выбарчых камісій. Большасць вылучаных у тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі (ТВК) прадстаўнікоў праўладных аб'яднанняў была ўключана ў склад камісій, у той час як большасці вылучэнцаў апазіцыйных арганізацый было адмоўлена. Дэмакратычныя аб'яднанні вылучылі ў ТВК 63 сваіх прадстаўнікі (яшчэ некаторая колькасць вылучалася зборам подпісаў выбаршчыкаў), але толькі 10 (15,87% ад ліку вылучаных) былі ўключаныя ў склад ТВК, што нават меней за паказчык уключэння ў ТВК у часе мінулых прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.

4. Створаныя ТВК знаходзяцца пад поўным кантролем выканаўчай улады: 93,5% ТВК будуць працаваць без удзелу прадстаўнікоў апазіцыі. Судовае абскарджанне рашэнняў пра ўтварэнне ТВК не з'яўляецца эфектыўным сродкам задавальнення законных інтарэсаў палітычных партый, паколькі суды ніколі не прымаюць рашэнні пра перагляд складу камісій.

5. У часе збору подпісаў зафіксаваны выпадкі ўжывання адміністрацыйнага рэсурсу на карысць дзеючага прэзідэнта і ціск на ініцыятыўныя групы апазіцыйных прэтэндэнтаў.

***

*Нагадаем, у кампанію па назіранні за выбарамі «Права выбару-2015» уваходзяць восем арганізацый і партый: Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», кампанія «Гавары праўду!», Рух «За Свабоду», Партыя БНФ, Беларуская партыя «Зялёныя», незалежны Прафсаюз радыёэлектроннай прамысловасці, аргкамітэт Партыі свабоды і прагрэсу.*

*Галоўнай мэтай кампаніі з'яўляецца абарона сапраўднага волевыяўлення грамадзян праз прадухіленне парушэнняў заканадаўства на ўсіх стадыях выбарчай кампаніі, фіксацыю парушэнняў і аператыўнае рэагаванне на іх.*

# Выбар народа без яго ўдзелу



**Артыкул 3 Канстытуцыі абвяшчае, што адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту Беларусі з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй, нагадвае ў сваім блогу на Naviny.by кіраўнік магілёўскага аддзялення Руху «За Свабоду», сукаардынатар кампаніі назірання за выбарамі-2015 «Права выбару» Алесь Сілкоў.**

Якія выдатныя і, галоўнае, зразумелыя словы! 11 кастрычніка 2015 году адбудзецца знамянальная падзея ў жыцці Рэспублікі Беларусь. Народ, выкарыстоўваючы сваё канстытуцыйнае права, абярэ на бліжэйшыя 5 гадоў кіраўніка краіны, якому даверыць частку сваіх правоў і паўнамоцтваў. Для гэтага шмат не трэба - трэба проста прыйсці і прагаласаваць. А каб не было сумневаў у выніках выбараў, іх трэба правесці адкрыта і галосна, паводле выбарчага заканадаўства.

Але калі даходзіць да справы, зыходзячы з вопыту назірання за папярэднімі выбарамі (ад фармавання выбарчых камісій да падліку галасоў), разумееш, не вельмі і патрэбны народ для вызначэння вынікаў галасавання.

У камісіі трапляюць «правераныя байцы», якія ходзяць пад сцягамі лаяльных арганізацый «Белая Русь» і БРСМ, а таксама палітычных арганізацый кшталту Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі Аграрнай партыі. Але калі прыгледзецца бліжэй і вывучыць месцы працы чальцоў гэтых партый і арганізацый, то замест спартсменаў, камуністаў і «камсамольцаў» апынецца - «О, цуд!» - працоўны калектыў сярэдняй школы альбо прамысловага прадпрыемства.

Як правіла, кіруе такой камісіяй альбо дырэктар, альбо яго намеснік, а ў якасці сакрэтнага кантралёра, каб усё праходзіла як трэба, але толькі не ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, - прадстаўнік мясцовага выканкама.

Падлік галасоў - гэта асобная песня. Здавалася б, прасцей простага ўзяць бюлетэнь выбаршчыка і паказаць усім сябрам камісіі, а таксама назіральнікам, за якога кандыдата чалавек паставіў галачку. З гэтым справіцца любы школьнік, аднак, як паказвае вопыт назірання за выбарамі, з гэтым не могуць справіцца дарослыя людзі, якія часта вучаць тых самых школьнікаў.

Вось і думаеш, чаму яны могуць навучыць падрастаючае пакаленне, калі самі не могуць выканаць артыкул Выбарчага кодэкса, дзе гаворыцца аб адкрытасці і галоснасці выбараў. Атрымліваецца, што вучаць ўтоенасці, хітрыкам, падману?

Не! Не! І яшчэ раз не!

Кожны член камісіі лічыць свае бюлетэні і раскладвае іх па стосах, а затым шэптам даводзіць старшыні камісіі свае вынікі (чамусьці заўсёды шэптам і заўсёды індывідуальна). Старшыня камісіі запісвае іх, а затым разам з сакратаром, які часцей за ўсё аказваецца кантралёрам з выканкама, падсумоўваюць і абвяшчаюць вынік выбараў на ўчастку! Колькі ж людзей за каго прагаласавала, не ведаюць ні назіральнікі, ні, як ні дзіўна, шараговыя сябры камісіі...

Як з гэтым змагацца? Кожнаму з нас трэба зрабіць першы крок - стаць назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах ад кампаніі назірання «Права выбару-2015». Толькі разам можна змяніць гэтую заганную сістэму і зрабіць так, каб выбар народа ніхто не змог скрасці.

# Без права на скаргу (працяг)

працяг ад стар. 1

Але ў частцы 6 артыкула 34 Выбарчага кодэксу гаворыцца, што скарга можа быць пададзена «грамадзянамі, які вылучылі прадстаўніка ў склад камісіі праз падачу заявы».

Гаворкі пра абавязковасць падпісання скаргі ўсімі імі няма. Таму, на думку скаржнікаў, суд такой сваёй трактоўкай груба парушыў іх канстытуцыйныя правы.

У скарзе, пададзенай у Вярхоўны суд, гаворыцца, што пераблытаныя два правы: «Ёсць права грамадзян вылучаць у склад выбарчых камісій сваіх прадстаўнікоў (там ёсць цэнз: не менш 10 чалавек) і права абскарджваць рашэнне органаў, што сфармавалі такія выбарчыя камісіі (тут Выбарчы кодэкс не прадугледжвае цэнзу)».

Сябра Рады Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк, які падпісаў скаргу сярод іншых грамадзян, адзначыў:

«Патрабаванне, каб скарга была падпісана ўсімі грамадзянамі, выглядае абсурдным. Вылучыць свайго прадстаўніка ў выбарчую камісію могуць не дзесяць чалавек, што ёсць мінімумам, а, скажам, тры тысячы. Атрымліваецца, што ў выпадку жадання абскардзіць рашэнне органаў, што сфармуюць выбаркам, будуць запатрабаваныя подпісы ўсіх трох тысяч. А калі нехта з іх раптоўна памрэ? Тады што, астатнія 2999 страцяць права на абскарджванне?»



Вярхоўны суд не прыняў пазітыўнага прэцэдэнтнага рашэння, таму скаржнікі наважаныя падаць скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека.

Калегія Вярхоўнага суда пад старшынствам суддзі Валянціны Кулік 10 жніўня пастанавіла «азначэнне Брэсцкага абласнога суда пакінуць без зменаў, а прыватную скаргу - без задавальнення».

«Беларуская судовая сістэма ў чарговы раз адмовіла грамадзянам Беларусі ў праве на правасуддзе. - пракаментаваў рашэнне Вярхоўнага суда першы намеснік старшыні Руху »За Свабоду« Юрась Губарэвіч. - Кожны грамадзянін, які лічыць, што рашэнне парушыла яго правы, мусіць мець персанальнае права абскардзіць гэтае рашэнне ў судзе».



«Гэта натуральная норма, якая замацаваная ў заканадаўстваў дэмакратычных краінаў і нават у Беларусі ў тых выпадках, калі яна не тычыцца палітычных правоў», - падкрэсліў Губарэвіч.

> **Адмаўляючы ў разглядзе справы, суд спрашчае сваё існаванне, бо калі б не высоўваліся жорсткія ўмовы пра 100% заяўнікаў пры падачы скаргаў на нематываныя адмовы аб уключэнні прадстаўнікоў у склад выбаркамаў, то такіх скаргаў было б у дзясяткі разоў болей**

«Адмаўляючы ў разглядзе справы, суд спрашчае сваё існаванне, бо калі б не высоўваліся жорсткія ўмовы пра 100% заяўнікаў пры падачы скаргаў на нематываныя адмовы аб уключэнні прадстаўнікоў у склад выбаркамаў, то такіх скаргаў было б у дзясяткі разоў болей», - заключыў адзін з кіраўнікоў Руху.

# Школа Руху пра брэнд Беларусі




**25 маладых беларусаў і беларусак стануць удзельнікамі чарговай Летняй Школы Руху «За Свабоду», якая арганізуецца сёлета 22-29 жніўня на Віленшчыне.**

«Гэта пятая па ліку школа, якую штогод ладзіць Рух, – кажа яе дырэктар Алесь Лагвінец, намеснік старшыні Руху. – Першая была праведзеная ў ліпені 2011 году ў Варшаве, другая – у Вільні, трэцяя – на Беласточчыне, чацвёртая – пад Трокамі».

Кожны год мяняецца тэматыка навучання. Сёлета яна гучыць так – «Нацыянальны брэнд Беларусі».

Мэта – абмеркаваць складнікі брэнда Беларусі, выпрацаваць шляхі фармавання пазітыўнага вобразу Беларусі сярод замежнікаў, прааналізаваць прыклады выкарыстання нацыянальных адметнасцяў як паспяховых маркетынгавых крокаў.

Выкладчыкамі і гасцямі Школы стануць вядомыя беларускія эксперты і грамадскія дзеячы – Уладзімір Арлоў, Сяргей Чалы, Аляксандр Класкоўскі, Сяргей Скараход, Андрэй Лянкевіч, Франак Вячорка, Алесь Аляхновіч, Рыгор Астапеня, Андрэй Стрыжак, Валярына Кустава ды іншыя.

Тэмы лекцый – “Soft power, публічная дыпламатыя і брэндынг”, “Нішы для развіцця эканомікі Беларусі”, “Гібрыдныя кампаніі і прыёмы працы ў сацыяльных сетках па прамоцыі беларушчыны”, “На чым варта будаваць інвестыцыйны брэнд Беларусі?”,




“Рэкламныя і брэндынгавыя кампаніі ў Беларусі”, “Творчы чалавек як брэнд краіны”, “Беларусь: перспектывы развіцця”, “Беларусы вачыма сацыялогі і статыстыкі”.

Што важна, пры канцы жніўня моладзь зможа спалучыць адпачынак і навучанне, адзначыў Алесь Лагвінец, паабяцаўшы насычаную праграму. Напрыклад, слухачоў Школы чакае візіт у мэрыю Трокаў, а ў Вільні – экскурсія ў музей ахвяраў сталінізму і па беларускіх мясцінах літоўскай сталіцы.



Арганізатары пакрыюць выдаткі на праезд і пражыванне ўдзельнікам Школы, у выпадку неабходнасці ім будзе аказаная візавая падтрымка.

Удзел у адборы магла ўзяць моладзь ва ўзросце 18-30 год. Конкурс у гэтым годзе склаў 3,2 чалавека на месца. Сярэдні ўзрост тых, хто браў удзел у ім, - 22,5 года. З іх дзяўчат – 57%, хлопцаў – 43%.

Самымі актыўнымі былі жыхары і жыхаркі Мінска – гэта 42% ад тых, хто спаборнічаў, каб стаць слухачом Летняй Школы Руху.

Далей ідуць Мінская вобласць – 15%, Магілёўская – 13%, Віцебская – 10%, Гродзенская – 9%, Гомельшчына – 6%, Брэстчына – 5%.

Заяўкі на навучанне былі пададзеныя з больш як 15 гарадоў. Гэта – сталіца, абласныя цэнтры, Дрыбін, Барысаў, Жодзіна, Бабруйск, Наваполацк, Маладзечна, Кобрын, Крычаў…

# Ад Wargaming да Азаранкі

**Прэтэндэнты на навучанне ў Школе Руху павінны былі напісаць кароткае эсэ на тэму: «Замежнік спытаў, чым адметная і цікавая для яго Беларусь. Што Вы яму адкажаце?» Прапануем некаторыя з іх (на мовах арыгіналу):**

Беларусь - это перекресток. Перекресток культур, традиций, обычаев. Смесь ментальностей и странностей всех народов Восточной Европы и бывшего СССР.

Перекресток - который должен пройти каждый европеец. Чтобы лучше понять себя.

Белорусы создали многое. И почти все созданное было разрушено войнами, разграблено, втоптано в грязь. Но вы не увидите в белорусах злобы.

Светлый, открытый взгляд, готовность помочь в любой ситуации, умение сопереживать. Главное в Беларуси - это не архитектура, а люди.

Люди, который сохранили веру в себя и в будущее.

Люди, которые не забыли свои корни и знают, в чем их предназначение.

Люди, которые не покоряются обстоятельствам, а управляют ими. Люди, которые умеют работать, отдыхать и смеяться.

Объехать все достопримечательности Беларуси можно за неделю. Чтобы познать хотя бы один процент белорусского характера может не хватить и десятка лет. Поэтому начинать нужно как можно раньше.








Калі наведаеш Беларусь, то напоўніцу адчуеш дух сярэднявечных замкаў ад Гародні да Міру, на ўласныя вочы пабачыш найстарэйшы лес Еўропы - Белавежскую пушчу, а таксама гаспадара гэтых мясцінаў - Зубра.

Як зацікавіць ваенная гісторыя, то ў нашай краіне ты можаш прайсціся па сутарэннях фартоў ды крэпасцяў, якія будаваліся рознымі дзяржавамі ды народамі, з галавою акунешся ў рэканструктарскую падзею часоў Першай Сусветнай вайны ў сядзібе Нямцэвічаў, сярэднявечны бой у Лідскім замку, шляхетны баль у Нясвіжы.

Калі жадаеш раслабіцца, то завітаеш на рыбалку на Нарач альбо Браслаўскія азёры, папалюеш на дзікоў у Белавежскай пушчы, праплывеш на байдарках па Прыпяці, а для аматараў экстрыму наведаеш зону адчужэння на Гомельшчыне.

Калі паслухаць музыку, то можна наведаць штогадовыя фестывалі ў Нясвіжы, Віцебску, Маладзечне. Пакаштуеш мотальскай каўбасы ды пушчанскай самагонкі. Саляныя горы, крэйдавыя кар'еры, дамы-сядзібы сусветна вядомых дзеячоў літаратуры, ваеннай справы, музыкі, культуры, мастацтва, навукі і спорту, якія нарадзіліся ў Беларусі. У музеях пабачыш на ўласныя вочы, а ў прыватных крамах зможаш прыдбаць нацыянальную вопратку, на памяць. Усе гэтыя эмоцыі кампенсуюць слабаразвітую турыстычную інфраструктуру. Таму - Welcome to Belarus.

*Калі замежнік спытае ў мяне пра Беларусь, я распавяду, што гэта краіна з багатай гісторыяй і, між іншым, першай у Еўропе і другой у свеце канстытуцыяй.*

*Што гэта краіна з неверагодна таленавітымі людзьмі. Калі ён мне не паверыць — параю наведаць парыжскую Гранд-апера з роспісамі Марка Шагала.*

*Скажу, што мая краіна — гігант аўтамабілебудавання. І калі ён пачне недаверліва ўсміхацца — прапаную загугліць пра БелАЗ.*

*Калі гэта будзе амерыканец — абавязкова скажу, што мы іх «зрабілі» па фрыстайле на зімовай алімпіядзе у Сочы.*

*А калі замежнік спытае пра дыктатуру (а ён абавязкова пра яе спытае), раскажу паданне, якое чытала невядома калі і невядома дзе. Ствараў Бог Беларусь. І быў у яго ў гэты дзень асаблівa добры настрой. Бо занадта цудоўнай атрымалася краіна. Усё у ёй было - і раўнюткія палі, і парослыя лесам хвалі ўзгоркаў, і хуткаплынныя рэкі, і чысцюткія, як сляза, азёры. Таямнічыя балоты, якія хаваюць ад цікаўнага вока сваю першабытную прыгажосць. Ну проста казачныя лясы з дурманячым пахам чабору ды багульніку, дзе сярод стагадовых волатаў-дубоў сапраўдным дыванам раскінуўся мох і дзе, як у сапраўдным палацы, жывуць вяльможы: зубры, ласі, мядзведзі і шмат розных жывёлінак ды птушак. А людзі якія! Мужчыны — рашучыя, смелыя, шчырыя і працавітыя. Жанчыны — знатныя прыгажуні, пяшчотныя і руплівыя. Паглядзеў Бог на сваю працу і падумаў, што занадта ўжо хараства для адной краіны. І вырашыў усё гэта ураўнаважыць… дурным кіраўніцтвам.*

*Так вось і жывем — насуперак кіраўніцтву.*

**Хлопец, ці ты не цікавішся спортам? Не ведаеш Домрачаву, Азаранку ці Мірнага? Можа і пра чэмпіянат свету па хакеі 2014 года нічога не чуў?**

**А мапу бачыў? Я разумею, што ты і суседзяў сваёй краіны можаш не назваць, але калі больш-менш уяўляеш мапу Еўропы, то мы там у самым цэнтры. Калі любіш вандраваць, то прыязджай - дранікамі з пірагамі накормім, чарку паставім, у лазню зводзім. Мора ў нас, праўда, няма, але блакітных азёраў і рэчак - на кожным кроку, без гор, але па лясах ды балотах нішто сабе можна пагуляць, на веліках ды байдарках можна цудоўнейшыя маршруты пракласці.**

**Да нас ужо шмат хто за птушкамі ездзіць назіраць – далучайся! Калі любіш культурны адпачынак, то палацы, цэрквы, музеі - на любы густ знойдзем, адзінае што слоўнічак захапі, каб лепш з гасціннымі беларусамі разумецца. І галоўнае цудоўнае слова запомні, якое ўсе дзверы адчыніць - kali laska. А так - Welcome to Belarus.**

Калі шчыра, адказ на пытанне залежыць ад таго, адкуль замежнік.

Калі ён з Расіі, то я, мабыць, распавяду аб нязвыклых для расейцаў беларускай архітэктуры, замках, гісторыі да 19-га стагоддзя, ВКЛ з яго Статутамі і рыцарствам. Абавязкова расказаў бы пра адрозненні нашых народаў, каб выбіваць з галавы суразмоўцы распаўсюджаны ў Расіі стэрэатып (калі ён у яго будзе) аб тым, што беларусы - проста галіна вялікага рускага народа, а беларуская мова - дыялект.

Калі мой суразмоўца будзе еўрапейцам ці амерыканцам, то яму, напэўна, наадварот была б цікавая Беларусь як, у пэўнай ступені, запаведнік сацыялізму - вуліцы Маркса і Дзяржынскага, помнікі Леніну, сталінская забудова, КДБ пад сваім жа імем, кучы міліцыянтаў, ну і, вядома ж, вылізаныя вуліцы. Аднойчы ў мяне нават была ідэя, калі мяне выганяць з журналістыкі, арганізоўваць экстрэмальныя экскурсіі для замежнікаў у «еўрапейскую КНДР», перапраўляючы іх сюды праз расійскую мяжу, з фотатурамі на фоне помнікаў Леніну, будынка КДБ і Акрэсціна, паходамі ў Курапаты і т .д. Але гэта хутчэй жарт.

Калі сур'ёзна, то і ў выпадку з заходнімі замежнікамі, я б пастараўся развеяць некаторыя міфы, паказаць Беларусь не толькі як апошнюю дыктатуру Еўропы, распавесці пра самыя крутыя дасягненні беларусаў - у IT, спорце і культуры: ад Wargaming з Viber да Азаранкі з Шагалам.

Я б распавёў пра асаблівасці беларусаў і беларускага менталітэту: талерантнасці, працавітасці, пэўнай замкнёнасці, гасціннасці, памяркоўнасці, прыязнасці і спакоі. Вы ўжо прабачце мне за ўсе гэтыя штампы, проста гэтыя рысы, як мы ўсе бачым, вызначаюць многае і ў беларускай палітыцы з эканомікай, яны - нашы перавагі і недахопы адначасова.

# Спакушэнне апазіцыі (працяг)

працяг ад стар. 1

120 тысяч подпісаў нам залічылі са 170 тысяч. Напэўна, не паспелі нас такім чынам выбіць. Я не хачу, каб так было цяпер».

Падобная ўстаноўка выбарчым камісіям — не ставіцца надта жорстка да праверкі подпісаў — спакуса здаваць «ліпу» дзеля рэгістрацыі, як гэта было пры «парадзе кандыдатаў» у 2010 годзе. Дагэтуль гуляе пагалоска, што ў выбаркамы тады перадаваліся «тэлефонныя кнігі» і ксеракопіі.

Гэта рыкашэтам б'е па іміджы ўсіх дэмакратычных сілаў, а не толькі па «маляўнічых-стотысячніках».

Ачысціць рэпутацыю апазіцыі і адфільтраваць кандыдатаў-масовачнікаў магла б грамадская рэвізійная камісія. Ідэя незалежнай праверкі подпісаў кандыдатаў з апазіцыйных колаў прагучала больш за месяц таму, аднак уцямнай рэакцыі ад іх дагэтуль няма.

Натуральна, у адпаведную грамадскую камісію павінны ўвайсці асобы, не ангажаваныя ў выбарчую кампанію каго-сці з кандыдатаў. То бок, яна не можа складацца, напрыклад, толькі з сябраў Руху «За Свабоду», хаця наша арганізацыя ўстрымалася ад вылучэння свайго кандыдата і падтрымання іншых.

У адмысловую камісію могуць увайсці праваабаронцы, незалежныя назіральнікі, журналісты, прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці і дэмакратычных структур, якія не бяруць удзелу ў выбарах і дыстанціюцца ад прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта.

Што тычыцца тэхнічных момантаў, то незалежная праверка подпісаў можа быць праведзена паралельна з аналагічнай працай афіцыйных выбарчых камісій. Падпісныя лісты як у арыгіналах, так і ксеракопіях могуць быць правераны ў прысутнасці прадстаўнікоў кандыдатаў. Ацэнка подпісаў цалкам можа ажыццяўляцца дэцэнтралізавана - у любым абласным або буйным горадзе.




Гэтая працэдура не зойме шмат часу, няма ў ёй і нічога архіскладанага. Як чалавек, праз якога ў свой час прайшлі дзясяткі тысяч подпісаў у падтрымку кандыдатаў усіх узроўняў, а таксама «Народнага рэферэндуму», я ведаю многія тонкасці выяўлення нядобрасумленных зборшчыкаў. Так, вызначыць «левыя» подпісы, намаляваныя ў адну-дзве валанцёрскія рукі, можна нават пры беглым візуальным аглядзе падпіснога ліста. Само сабой павінна быць ажыццёўлена і выбарачная «празвонка» грамадзян, якія падпісаліся за прэтэндэнтаў на прэзідэнцтва.

Вынікі праверкі павінны стаць публічнымі, каб выбаршчыкі ведалі, хто мае права весці адкрытую выбарчую барацьбу далей, а хто зарэгістраваны ўладамі для масоўкі.

Выдаткі часу і людскія высілкі будуць шматкроць кампенсаваныя маральнымі здабыткамі для ўсёй апазіцыі наогул і ў прыватнасці для кандыдатаў, якія годна пройдуць гэтае выпрабаванне.

У грамадскай думцы не павінна застацца трывалай высновы, што апазіцыя ў маральным плане нічым не лепшая за ўладу — і таксама здатная да фальсіфікацый хоць бы для таго, каб засвяціцца ў статусе кандыдатаў у прэзідэнты.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 12.08.2015 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by